# НІВА

ОРГАН Г.П. БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА – КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 36 (549) ГОД XI БЕЛАСТОК 4 ВЕРАСНЯ 1966 г. ЦАНА 60 ГР.


## У нумары:





# Куды дарога?

**У новым годзе будзе 1512 пачатковых школ у ваяводстве.**

- **У першы клас увойдзе 26920 дзяцей.**
- **У восьмых новых класах будзе 16 тысяч.**
- **Агулам вучняў школ пачатковых будзе 210530 з 7925 настаўнікамі.**
- **Увогуле ў ваяводстве ў новым годзе будзе вучыцца 290 тысяч дзяцей, моладзі і дарослых, гэта значыць вучыцца будзе кожны чацвёрты чалавек у ваяводстве.**
- **Змена тэрміналогіі ў ліцэях. Ад наступнага года першы клас ліцэя. Будзем казаць: восем класаў пачатковай школы і чатыры ліцэя.**

Прызвычаіліся мы прымаць кожны пачатак новага школьнага года як свята. І як кожнае свята пасля нейкага часу перастае яно чараваць, стаецца звычайнасцю. Для многіх. Ёсць аднак людзі — малыя і вялікія, для якіх гэтае свята, адвечны 1 верасень, заўсёды перажыванне. І адны і другія — настаўнікі і дзеці ідуць сабе на спатканне і на спатканне невядомага. Невядомае мaніць хараством і... цяжкасцямі.

Я сама хвалююся, калі зараз пішу гэтыя словы, бо ўспамінаю сваё пераступанне школьных парогаў, за кожным разам ступенькай вышэй па драбіне да ўсё большых і шырэйшых, і цікавейшых ведаў.

Настаўнік з яго бясконца, здавалася б, вялікай галавой стае перада мной як увасабленне ўсеабʼемлючай мудрасці зямлі. Няхай слава будзе нашым настаўнікам, народным асветнікам!

І дзецям — перша-, друга-, васьмікласнікам — будучым светлым пакаленне і творцам! І бацькам, што бачаць будучыню сваіх дзяцей у вучобе, і ў сувязі з тым нішто ім не цяжкае, што гэтай вучобе служыць!

Не надта мы яшчэ багатыя, не заўсёды задаволены. **Але ў адным наша велізарнае дасягненне: у агульным даступным абавязковым навучанні.** Гэты факт хачу падкрэсліць як наймацней у пачатковы дзень новага школьнага года — Тысячнага і Першага (новага Тыся-

(Працяг на стар. 5)

# Нашыя радасці нашыя клопаты

**ІНТЭРВʼЮ СА СТАРШЫНЕЮ ВАРШАЎСКАГА АДДЗЕЛА БГКТ ЮРКАМ БУСЛОВІЧАМ.**

Старшыню Варшаўскага аддзела БГКТ — сябра Юрку Бусловіча сустракаем у памяшканні аддзела. Старшыня праводзіць тут амаль усе вольныя ад прафесіянальнай працы і сямейных абавязкаў хвіліны, прысвячаючы іх карпатліваму выконванню сваіх грамадскіх абавязкаў.

**— Сябра старшыня, прапаную нашую размову пачаць ад справы найбольш істотнай: якія асноўныя мэты і заданні ставіць перад сабою Варшаўскі аддзел БГКТ?**

— Асяроддзе варшаўскіх беларусаў даволі спецыфічнае. Гэта пераважна выхадцы з Беласточчыны, якія працуюць і жывуць у асяроддзі польскім. Мы б хацелі, каб людзі гэтыя адчувалі надалей сувязь з Беласточчынай, каб хацелі ёй дапамагчы сваімі ведамі, вопытам, сваёй працай, культурнай, мастацкай ці навуковай творчасцю. Гэта асноўны напрамак нашай дзейнасці. Асноўны, але не адзіны. Мы б хацелі, каб і тут на месцы беларусы развівалі сваю «нацыянальную па форме, а сацыялістычную па зместу» культуру, каб паказвалі яе як найшырэйшым кругам жыхароў Варшавы, узмацняючы тым самым брацкае сужыццё беларусаў з польскім асяроддзем Варшавы.

**— Мэты сапраўды вялікія і годныя намаганняў. Як тады ў святле гэтых заданняў ацэньваеце пройдзенае 10-годдзе вашага аддзела?**

— Як найбольш станоўча. Можа не ўдалося нам поўнасцю асягнуць мэт, якія перад намі ставіліся, удалося аднак многа. Аддзел наш згуртаваў у Варшаве каля 500 членаў і сімпатыкаў таварыства, якія ў меншай ці большай ступені кантактуюцца з намі, карыстаюць з нашых мерапрыемстваў. Апрача таго аддзел наш згуртаваў некалькі дзесяткаў актывістаў БГКТ, якія актыўна ўключаюцца ў арганізаванне гэтых мерапрыемстваў. У 1956—1958 гадах існаваў пры нашым аддзеле хор, які даваў свае выступленні ў Варшаве і на Беласточчыне, а таксама дэкламатарскі гурток, танцавальны гурток і эстрадная група. Ад 1957 года працуе пад кіраўніцтвам Янкі Анісэровіча дыскусійны клуб, які праводзіць дыскусіі на розныя цікавячыя беларусаў у Варшаве тэмы. Штадзённа шмат асоб наведвае нашу святліцу, каля 120 асоб карыстае з беларускіх кніжак у нашай бібліятэцы. Каб большую колькасць беларусаў зацікавіць дзейнасцю таварыс-

(Працяг на стар. 5)

 


# БЕЛАВЕЖА

ОРГАН ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ № 93


Мікола Гайдук

# ЖНІВЕНЬ У БЕЛЬСКАЙ ПУШЧЫ

— Мурашкі вам з падушачкамі!
— Дзякую.
(Народнае прывітанне пчаляру, занятаму падлазкай).

У гакую пару жалуды пачыналі сыпацца румяным краплістым дажджом. Ныралі ў пухкую хвалістую поўсць верасоў, страсаючы з буйнага квецця блакітны дымок пыльцы, або лажыліся на перасохшы за летнюю спёку шорсткі мох і там даспявалі ў цішы сухіх сонечных поўдняў. Клыкастыя старыя вяпрукі выводзілі тады свае чароды з маліннікаў і чарнічных далін на выжары — у дубовае. За імі ціхачом, паўз густыя ельнікі валакліся воўчыя выводкі. Застывалі за каржакаватымі вываратнямі і пільна сачылі, ці не адаб'ецца дзе ўбок ад чарады гарэзлівае парася. Але вяпрыха, старанна вылускваючы з моху і верасоў хрумсткія жалуды, чуткая на падазроныя шолахі пушчы: пагрозліва рохкала на хурсткіх і свавольных і ваўкам не квапілася выпрабаваць на ўласнай скуры вастрыню яе клыкоў.

На момант мацёра-вяпрыха спыніла ласавацца жалудамі, насцярожана павярнула рыла ў бок залітага верасамі выгалку, сапнула, трывожна азвалася. Чарада мігам згрудзілася ля маткі. Затрашчаў сухапад — паласатае стадка знікла ў пушчанскай крэкаці. Ваўчыха як бы ад нечаканасці прыпала на пярэднія лапы да зямлі, потым задрала галаву, пацягнула парэпанай мызай паветра і таксама трухтам падалася са сваім выводкам следам вяпровай чародкі. Выгалкам, па калена ў верасах, брылі дзве постаці. Перадам ішоў старэйшы, а за ім, стараючыся трапіць след у след, каб не наткнуцца на задрамаўшую ў верасах вужаку, крочыў юнак гадоў чатырнаццаці. Абодва яны ад пояса па шыю былі ўвешаны бортнымі прыладамі і спавіты ўсмоленымі канаплянымі вяроўкамі-лазівамі. Кіраваліся яны да разгалістага дуба, што высіўся ля скраю выгалу.

Малады подбегам выперадзіў старэйшага.

— Куды ты? — запытаў яго старэйшы.

— На вастракол гляну — маруха можа настраміўся.

— Наўрад, мядзведзь ныне сваімі малымі заняты: у маліннікаў бушуе ды за звярыным маладняком леташнім ганяецца.

— А як і да борці панадзіўся: дупляніікам уся пушча прапахла.

— Ого! На кале і так стрымець не стане — басюры даўно і косткі разнеслі.

Юнак усё ж ababег вакол дуба, пад якім падвецце скрозь было густа ўтыкана моцнымі, высокімі ў тры локці і завостранымі зверху дубовымі коллямі. Але нічога на вастракол не напаролася, толькі відаць, зубы пакінулі на іх дзенедзе шматкі бурай шэрсці, абціраючы са сваіх шый і грудзін назойлівых пушчанскіх кляшчоў.

— Ладуй карабец, я палезу, — загадаў юнаку старэйшы. Сам жа спрытна абвіваючы лазівам таўшчэзны камель дуба, вязаў страмёна за страмёнам і павольна, але ўсцяж стаў падымацца па іх на дрэва.

Тым часам юнак дабыў крэсіва і губу, скрасаў агню і, падсыпаўшы горсць сухога парахна, раздзьмуў дымар. Потым акуратна ўлажыў у берасцяны карабец сітца, барту з шырокім і вострым лязом, вукліцу, бліскучую вострую дажку з пачарнелым ад смолі тронкам, паверх паклаў распалены дымар.

Бортнік быў ужо на першай галіне і размотваў лазіва. Страмёны замыславата і, здавалася б, назаўсёды зашморгнутыя пры ўваходзе на дрэва, цяпер як бы самі па сабе распускаліся. Калі апошняе з іх разышлося, ён зматаў лазіва ў скрутак і ўжо па галлях дабраўся да борці.

— Паведай, як борць, — папрасіў знізу юнак.

— Добра есць — неруш! — задаволена выгукнуў зверху бортнік і стаў спускаць уніз канец лазіва.

Хлопец прымацаваў да яго выладаваны карабец, лёгка тузануў, падаючы знак, што можна падымаць, а сам пайшоў пад старыя елі надраць моху на дымнае вогнішча ад разазлаваных падлазкай пчол.

Наверсе бортнік замацаваў сябе паўпол да дрэва лазівам, адхіліў самабітню, што боўталася пры бортнай даўжыні на скручанай з лыка і лазы віціне, ахоўваючы борць ад мядзведзя, і стаў адклешчваць лязом барты даўжыню борці.

Растрывожаны яго стукам рой дуплякоў струменем сыпаўся з лятка, распаўзаўся па сітцы, што ахінала твар бортніка, путаўся ў яго доўгіх валасах, прыкрываючых шыю. Едкі дым з дымара адурманьваў пчол. Яны адляталі прэч, але хутка вярталіся, каб з яшчэ большай заядласцю бараніць сваё гняздо. Бортнік жа ўпарта пранікаў унутр борці, і неўзабаве важкія ад мёду соты павандравалі ў карабец. Калі карабец напоўніўся, бортнік асцярожна спусціў яго на лазіве ўніз. Хлопец заладоўваў соты ў скураны мех-булгу і адпраўляў парожні карабец бортніку.

Сонца паволі сыходзіла з поўдня. Лянiва тлела маленькае дымнае вогнішча пад дубам. Толькі хлопцу не было часу на спачынак: адна булга была даверху напоўнена мёданоснымі вашчынамі, зашморгнена сыроўцам і стаяла абапертай аб камель дуба. Ён ладаваў ужо другую булгу, наровячы класці ў яе соты так, каб памясцілася іх там як мага болей ды каб у хадзе яны не перашкаджалі.

Борць выдалася вельмі ўраджайнай і хлопец ад задавальнення ўюном круціўся вакол дуба. Яго карціла перакінуцца словам з бацькам, але ж баяўся ён узлаваць таго парушэннем пушчанскай звычкі, якая не дазваляе лішне гарланіць у лесе.

Калі чарговы апарожнены карабец знік у густым дубовым вецці, хлопец пачуў за плячыма нейкі хруст, як быццам трэск сухой голькі пад асцярожнай нагою чалавека. Не паспеў ён азірнуцца як чыесьці хваткія рукі кляшчамі заціснулі яму шыю. Хлопец з усяе сілы ірвануўся, упіўся пазногцямі ў чужыя жылістыя запясці, завяргаў нагамі, захроп, але ад тупога ўдару пад рэбры абмяк і асунуўся на зямлю. Да напасніка на падмогу далучыўся другі. Яны запхалі хлопцу вехцем травы рот, вяроўкай скруцілі назад рукі, звязалі ногі. Праз хвіліну цела хлопчыка бяссільна павісла, прытрочанае паўпол да дуба.

Напаснікі застылі, прыслоненыя плячыма да дуба. Гэта былі бялявыя, прысадзістыя, моцна збудаваныя мужчыны. Галовы іх прыкрывалі стаўбуністыя, скураныя, поўсцю звонку шапкі. Нарукі з язвяцовых шкур былі падпаразаны шырокімі сыраўцовымі дзягамі. На нагах мелі порты з сырога ільнянага палатна, увабраныя ў аборкі, ды лыкавыя лапці. Даўгатварыя, з глыбока пасаджанымі вачыма, яны былі апалены сонцам і вятрамі.

Яны шэптам перагаворваліся ды шэптам сачылі за хлопцам.

Хутка з дубовага лісця сплыў напоўнены карабец. Яны апарожнілі яго і, тузануўшы за канец лазіва, закінулі на плечы абедзве булгі, намерваючыся таксама адысці, як і з'явіліся.

Неўзабаве наверсе дуба пачуўся глухі стук. Гэта бортнік заклешчваў борць. Ад лёскату хлопец ачнуўся, затрапятаўся, застагнаў і стаў азірацца.

У далёкім прасвеце бору ўбачыў дзве постаці з булгамі за плячыма. Яны, перабягаючы ад дрэва да дрэва, заглыбляліся ўсё далей і далей у пушчу, пакуль зусім не зніклі ў яе гушчавіне.

— Яны — яцвягі! — мільганула думка ў хлапца. Ён напружыўся з усіх сіл, павярнуўся тварам да дуба. Абціраючыся шчокамі аб шурпатую кару дрэва, намагаўся ссунуць дзягу, якая таймавала яму вусны. Сыровец не паддаваўся. Хлопец раскрываваў увесь твар. Урэшце дзяга злезла на бараду. Ён выплюнуў вехаць травы і закрычаў нямым голасам.

Устрывожаны крыкам сына бортнік кулём скаціўся з вершаліны дрэва, кінуўся да хлопца.

— Хто цябе так, сынок?!

— Забралі!.. Абедзве з сотамі знеслі...

— Хто?

— Яны! Яцвягі. О, там, там пабеглі борам...

Бортнік аслабаніў сыну рукі. Хлопец хутка вызваліўся з прывязі, развязаў сабе ногі. Захапіўшы лук, калчан са стрэламі ды барту, яны скочылі следам яцвягаў.

Некаторы час мігалі ў рэдкім сасновым бары іх звітныя постаці. Чуліся патрэскванні сухападу пад нагамі. Потым усё знікла і суцішылася.

Пушча млела ў жары надвячоркавай смагі. Недзе на вершалінах дрэў грукалі галубы, у ляшчынніку шамацела вавёрка. Сонца паволі апускалася за зубчатыя вярхі елак. Пацягнула халадком. Зводьна набліжаўся надвячорак.

Бортнікі вярнуліся ні з чым.

— Няма што, сыне. Яцвяг у пушчы, што чачуга ў рацэ — мігне і следу не пакіне, — прамовіў, абціраючы далонню пот з чала, старэйшы.

— Ну і як яны падышлі мяне? — не супакойваўся малады.

— Ведацьмеш, што ў пушчы дзве пары вачэй мусіць быць ды і вуха востра, як у лося.

— Найменш тры гарнцы мёду-дупляніку ды чвэрць каменя воску знеслі, — бедаваў хлопец.

— Не турбуйся па маласці. Дупляні мёду назбіраюць. Капа борцей нашых па пушчы раскідана, — суцяшаў яго бацька. — Добра, што жыцця не пазбавілі, злыдні. Тота ж зноў у Русь сталі набягаць. Трэба цівуну ў Бельск паведаць, няхай заставу ладзіць, бо зусім нам тут жыцця не стане.

Бортнік яшчэ раз узабраўся да пчол. Закляшчыў, як след, борць. Выпрабаваў самабітню, ці спраўна збівае нязванага лазебніка. Сышоўшы ўніз, ужо разам з сынам, яны выпрабавалі крэпасць колляў, падцясалі іх вяршкі, каб збіты з-пад борці самабітняю звер знайшоў на іх пэўную смерць. Абнавілі на дубе свой знакклеймо: стралу з пераламанай брэхвай і, сабраўшы свае прылады, падаліся праз выгалак у пушчу.

У гусцеючым змроку, як спозненая цень, захіталася ля колляў пад дубам ліса. Лізнула з травы і моху кроплі пралітага мёду, спрабавала на зуб кавалачак адарванага ад дзягі раменю ды расплылася ў цьме. Недзе за выгалкам не ўтаймоўвалася крыкса-сойка ды на версе бортнага дуба не суніміліся растрывожаныя лазьбаваннем дуплякі.

У Бельскую пушчу прыйшла паркая жнівеньская ноч.

Алесь Барскі

## КАРЭННІ КАХАННЯ

(працяг цыкла)

17

трава па пояс нам
мы пушчы да каленяў
лес небу да сукенкі
у кожнага свой рост
у кожнага свой лёс
і мабыць трэба так
каб хтось быў большы
і хтось меншы
закон натуры справядлівы
ніхто закону не абыдзе
і толькі мы зрабілі гэта
нам ружы зацвілі з каленяў
так моцна выраслі ў шчасці
што мора стала па калені.

18

Пушча апранула нас лісцём
малінай накарміла і суніцай
а птушкі, напаілі песняй
і дуб зачараваў былінай
ляжым у гамаку даліны
ад бесклапоцця ап'янелі
усё усе для нас
а мы з Табою для кахання

19

я пазнаёміўся з Табой
і вакол свет зрабіўся каляровы
хоць у вачах і пацямнела
убачыў многа розных цудаў
зрабіўся чысты далікатны
як з фарфару кітайскага пасуда
скажы што кроплю з мяне вып'еш
зараз пральюся я да рэшты
скажы што возьмеш адно шкельца
дык на кусочкі разабюся.

20

Вы чалавек стары
і я вам аддаю пашану
і выслухаў я да канца
вашы закіды і папрокі
і крытыку сучаснага кахання
і мудрасць вашу памятаю
што грэх салодкім можа быць
як мёд з ліпнёвых вулляў
толькі ў тым я супроць Вас
што грэх салодкім можа быць

21

давай узбярэмся ў купал царкоўны
і ў сэрцы свае як ў звон ударым
каб людзі пачулі у наваколлі
нашую песню «авэ каханне»
і будзем пасля цэлай святыні
углядацца у твары мадон і пракракаў
і будзем прасіць бласлаўлення Марыі
якая сэрцам жаночым
адобрыць каханне.

22

Давай яшчэ раз затанцуем
пад скрыпкі салаўёў-паэтаў
пад зялёны раяль дубровы
давай яшчэ раз затанцуем
закружымся ў травы рынем
і дамо пачатак сыну
што у пульсах нашых б'ецца
як кроплі вады ў нетрах
як атамы ў бурным ветры
у травы рынем
і сплодзім сына

23

досыць нам
не цягні мелодыі
ад вібрацыі зоркі пакрышацца
і рассыплюцца ў пыле касмічным
досыць
бо голас парвецца
як струна у руках Паганіні
досыць
досыць
бо шчасце
лопне на часці.

24

як хочаш буду тваім берагам
або ветрам, які абыдзе цябе навокал
як толькі працягнеш руку
на мяне усюды натрапіш,
і расчэшаш мяне нібы грэбенем
сваімі кволымі пальцамі
або проста на мне абапрэшся
каб глядзець у крыніцу плывучага шчасця.

25

калі станеш па грудзі у жыце
акунешся ў пахучую хвалю
жаўрукі разнясуць іскры сонца
і выбухне полымя жніва
я вясло прынясу дарагая
вясло з тонкай сталі адбітай
і тады паплывем па загоне
на востраў нашага шчасця.



 

## СЕЛЬСКАЯ ГАСПАДАРКА БЕЗ ТАЯМНІЦ

# АД ЭКСПЕРЫМЕНТАЎ ДА ПРАВІЛА

Даўнія погляды на сутнасць вапнавання паволі змяняюцца. Шматлікія доследы паказваюць, што на вельмі кіслых глебах наогул нельга весці рацыянальную гаспадарку. Кіслыя глебы таксама не ствараюць адпаведных умоў вегетацыі нават для малаўражлівых на кіслотнасць раслін. Найлепшыя глебы слабакіслыя, ніякія або слабашчолачныя. Найбольш універсальныя глебы тыя, кіслотнасць якіх блізкая да ніякай.

Цікавыя эксперыменты на тэму ўздзеяння вапнавання на ўраджай жыта правёў Беластоцкі Інспектарат ІУНГ. Аказалася, што нават жыта дае большы ўраджай на вапнаванай глебе. Пасля ўгнойвання поля толькі мінеральнымі ўгнойваннямі жыта дало ўраджай 21,8 ц з гектара, пасля вапнавання з тымі ж угнаеннямі — 22,9 ц, а даданне яшчэ сернакіслага магнію павялічыла ўраджай да 23,8 ц. Добрыя вынікі дало прымяненне даламіту (мае ў сабе вапну і магній). Гэты прыклад аб многім гаворыць. На беластоцкіх землях такая высокая кіслотнасць, што вапнаваннем вельмі моцна можна павысіць ураджайнасць. Гэтую справу даволі проста вырашыць. Калі нават цяжка купіць паленую вапну або вапняк, дык можа недзе ў вашай аколіцы ёсць мергель (напр. у Сакольскім павеце). Мергель — гэта сумесь вуглекіслай вапны з глінай (ад 10 да 45% чыстай вапны).

Каб ведаць, колькі трэба мергелю даць на гектар, трэба звярнуцца да сельскагаспадарча-хімічнай станцыі, каб зрабіла аналіз мергелю. Калі трэба даць 10 ц вокісу вапны, дык 15%-нага мергелю трэба даць 67 ц на гектар. Для гэтых мэт можна прымяняць і лугавую вапну, калі яна ёсць недзе недалёка. Але лугавая вапна мае ў сабе атрутныя для раслін злучэнні. Таму капаем вапну раней і складаем яе ў кучы. За некалькі месяцаў атрутныя злучэнні раскладуцца. Апрача таго, у мясцовасцях, дзе ёсць цукровыя заводы можна прымяняць дэфекацыйную вапну. Важная рэч — спосаб рассыпвання вапны, тэрмін і заворванне. Самая лепшая пара вапнавання — пасля жніва. Рассыпаную вапну добра вымешваем з глебай пры дапамозе бараны, культыватара або плуга. Вапнуем у добрае надвор'е, каб лепш перамяшаць вапну з глебай. Чым лепш вымяшаем, тым большую карысць дасць вапнаванне. Варта звярнуць увагу яшчэ на адну рэч. Сустракаюцца сяляне, якія раскідаюць вапну разам з гноем. Так рабіць нельга. Пры сутыкненню вапны з гноем, улятучваецца аміяк. Такім чынам марнуецца шмат азоту, так патрэбнага раслінам.

Мокрыя глебы вапнаваць няма ніякага сэнсу. Такія глебы трэба спачатку меліяраваць, а толькі пасля гэтага акультурваць і ўзбагачаць. Асабліва гэта датычыць зялёных угоддзяў. Вапнаванне мокрых лугоў не толькі не паможа, а можа нават пашкодзіць.

Падсумоўваючы сказанае, падкрэсліваем, што на Беласточчыне вапнаванне глеб павінна стаць масавай з'явай. Кошты вапнавання даслоўна грашовыя ў параўнанні з тым, што яно дае.

**Інж. М. Сухажэбрскі**

## ШТО ЧЫТАЮЦЬ

**У раёне пошты Кленікі (Гайнаўшчына) найбольш пачытная «Ніва». У ліпені падпісчыкаў «Нівы» налічваецца 168. Падпісчыкаў «Газеты Беластоцкай» — 93, «Нашай Всі» — 83, «Грамады Рольнік польскі» — 59, «Хлопскай дрогі» — 45, «Пшыяцюлкі» — 9.**

**Ёсць у раёне пошты Кленікі падпісчыкі савецкіх часопісаў. І так «Работніцу і крэсціянку» падпісвае 11 асоб, а часопіс «Беларусь» — 2 асобы. (мх)**

## Народны Каляндар

*Калі гусі лятуць нізка — зіма блізка, а высока — зіма далёка.*

*Калі ў копах мышы жывуць у нізе — сухая восень.*

# КАМЯНІ — ПОМНІКІ





*Гэтыя камяні з'яўляюцца своеасаблівымі помнікамі. Тут калісьці стаяў адзін з дамоў вёскі Полька ў Беластоцкім павеце. Вёску, як мы ўжо пісалі, гітлераўцы спалілі за супрацоўніцтва з партызанамі. Асталіся камяні і яны напамінаюць аб злачынствах фашысцкіх варвараў.*

*І не толькі яны. Вось гэтая загарадзь напамінае магілу, хаця тут ніхто з людзей не пахаваны. Гэта магіла адной палькаўскай сялібы. Так адзначылі месца свайго былога памяшкання гэтыя сярод уласнікаў сялібы, якія засталіся ў жывых.*

*Фота В. Рудчык*

# Дружба і праца

Хрэстаматыя для VIII класа

## Пан і ·акуляры

**Пад вечар к пану па расплату**
**Мужыкі зыйшліся ў хату.**
**Стаяць, гамоняць ля парога;**
**Тут часам пан таго, другога**
**Ад грамады к сабе пакліча,**
**Зірне у кніжку, грошы зліча,**
**Аддасць без крыўды, чыста, гладка;**
**Але прыйшла такі загадка.**
**Як раз Грыгору, як на тое,**
**Замест трох дзён злічыў пан двое,**
**Бо не ўчытаўся, глянуў скоса,**
**Праз што спрачацца давялося.**
**Грыгор па-своему рахуе —**
**Рублём ўсё болей, а пан злуе,**
**Ажно мяняцца стаў у твары.**
**Нарэшце, уздзеўшы акуляры,**
**Пан стаў у кніжку прыглядацца**
**І змоўк, і годзе ўжо спрачацца:**
**Падаць казаў сабе і Грышку**
**На міравую*) па кілішку.**
**Во, сербануўшы трохі гары,**
**Грыгор хваліць стаў акуляры.**
**Нарэшце гэтак адмачыў*)**
**(Хмель быццам розум замуціў):**
**«Во, дай жа, божа, мой паночку,**
**Здароўя гэтым шкляным вочкам:**
**Лепш панскіх свецяць, каб не зглазіць,**
**А тыя хай хоць павылазяць!»**

**Альберт Паўловіч**

1. Перадай сваімі словамі здарэнне, апісанае ў вершы.
2. Да якога літаратурнага жанра належыць гэты верш?
3. Якія ведаеш гумарыстычныя творы іншых беларускіх пісьменнікаў?

## Біяграфічны даведнік

Паўловіч Альберт — беларускі паэт. Нарадзіўся ў 1875 годзе (год смерці невядомы). Выдаў зборнік вершаў «Сцапок». Вершы яго маюць найчасцей гумарыстычны характар.

## Слоўнік

*Адмачыў — тут адказаў, адрэзаў.*
*На міравую — на згоду.*

# РАЗАМ СУПРАЦЬ ВОРАГА

**КШЫШТАФ ВУЙТОВІЧ**

**Праблема барацьбы з гітлераўскім акупантам паўстала на землях, якія з'яўляюцца тэрыторыяй сённяшняга Беластоцкага ваяводства — (за выключэннем тэрыторыі вернутай у 1945 годзе з абшару былой Усходняй Прусіі і Сувальскага павета, які пад нямецкай акупацыяй знаходзіўся ад 1939 г.) — пасля нашэсця гітлераўскай Германіі на СССР у чэрвені 1941 года.**

**Першыя члены антыфашысцкіх груп руху супраціўлення — гэта галоўным чынам афіцэры і салдаты Савецкай Арміі, якія засталіся ў тылу ворага, палонныя, якія ўцякалі з транспартаў і лагераў, а таксама былыя дзеячы Камуністычнай партыі Польшчы і Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі, якія мелі пэўную практыку падпольнай працы, з міжваеннага перыяду.**

**Ужо летам і восенню 1941 года пачалі дзейнасць у Белавежскай пушчы першыя партызанскія групы, някепска ўзброеныя і падрыхтаваныя да барацьбы. Летам і восенню наступнага года гэтыя групы набіраюць характар больш сарганізаваны і развіваюць больш актыўную разведчыцка-дыверсійную дзейнасць. Асабліва многа груп і антыфашысцкіх арганізацый паўстае ў гэты перыяд у паветах: Бельск, Саколка, Гайнаўка, дзе найбольш жыве беларусаў. І так, напрыклад, у Гайнаўскім павеце існуе 47 арганізацый, якія аб'ядноўваюць звыш 2 тысяч антыфашыстаў, з якіх многія пойдуць у партызанскія атрады.**

**Вялікі ўплыў на ўзмацненне партызанскай вайны і антыфашысцкіх настрояў мае дзейнасць Камуністычнай партыі (бальшавікоў) Беларусі і Беларускага штаба партызанскага руху.**

**Аб арганізацыі, дзейнасці і барацьбе савецкіх партызанскіх атрадаў на тэрыторыі беластоцкай зямлі ў перыяд 1941 — 44 гадоў — атрадаў, якія складаліся ў вялікай большасці з беларусаў — піша Міхал Гнатоўскі ў працы «На Беласточчыне», якая ўвайшла ў помнікавы зборнік аб дзейнасці савецкіх партызан на польскіх землях пад загалоўкам «Былі з намі».**

**Свае, часам нават вельмі дакладныя, справаздачы абапірае аўтар не толькі на ўспамінах жывучых удзельнікаў барацьбы, але перад усім на дакументах. Выкарыстаў матэрыялы архіваў Дзяржаўнага гістарычнага музея ў Гродне і Інстытута гісторыі партыі ў Мінску, а таксама ўспамінаў апублікаваных Інстытутам гісторыі Акадэміі навук у Мінску. Выкарыстаў таксама публікацыі, якія былі выдадзены ў СССР, як: «Савецкія партызаны», «Непакораная Беларусь», «Партызанская барацьба беларускага народа», «Работа Кампартыі Беларусі ў тылу ворага 1941—1944» і шмат іншых.**

**З апрацавання Міхала Гнатоўскага даведваемся аб многіх невядомых да гэтага часу момантах з дзейнасці Беластоцкага акруговага падпольнага камітэта Камуністычнай партыі (бальшавікоў) Беларусі. У 1943 годзе ў Беластоцкай акрузе дзейнічала 20 партыйных арганізацый, якія аб'ядноўвалі звыш 270 камуністаў. Сакратаром падпольнага Акруговага камітэта КП(б) Беларусі быў Васіль Самуцін, а ў склад кіраўніцтва ўваходзілі: Даніла Сукачоў, ген. Філіп Капуста, камсамолец Трафім Стрыжак і С. Майхровіч — галоўны рэдактар органа Акруговага камітэта «Беластоцкай Праўды».**

**Проста немагчыма выкладаць у падрабязнасцях велiч факталагічнага багацтва матэрыялу, прозвішчаў людзей, партызанскіх атрадаў і іх пачынанняў. Дзейнасць савецкіх партызанскіх брыгад імя Чапаева, «У імя Радзімы», імя К. Каліноўскага і імя Ал. Неўскага — упісалася залатымі літарамі ў гісторыю супольнай, савецка-польскай вызваленчай барацьбы.**

**Напэўна правільна падкрэсліваецца роля галоўнай часткі беларускага насельніцтва, асабліва сялян, якая паказала ў адносінах да акупанта — як сцвярджае аўтар — «не памякчаную варожасць» і запісала гераічную старонку ў барацьбе з фашызмам.**

**Кніга «Былі з намі» знаёміць чытачоў з барацьбой савецкіх партызан на тэрыторыі ваяводстваў: Люблінскага, Келецкага, Кракаўскага, Варшаўскага, Лодзінскага і Беластоцкага. Амаль усюды змагаюцца беларусы.**

**У сакавіку 1944 года дзейнічаюць на Люблінщчыне атрады савецкага партызанскага згрупавання пад камандаваннем палкоўніка Івана Банава «Чорнага», якія раней дзейнічалі на тэрыторыі Беларусі. Галоўным чынам з беларусаў складаецца партызанскае згрупаванне генерала Капусты. У Яноўскіх лясах супольна з партызанамі палкоўніка Мочара змагаліся і гінулі беларусы з партызанскага атрада палкоўніка Мікалая Пракапюка. Гарнуліся сыны Беларусі ў партызанскі атрад маёра Міхала Карасёва, які праз беларускую тэрыторыю праходзіў да баявых дзеянняў на Украіне, у Польшчы і Чэхаславакіі. Шмат было беларусаў таксама і ў партызанскім атрадзе імя Хрушчова, якім кіраваў лейтэнант Грыгорый Кавалёў. Гэты атрад змагаўся ад красавіка 1944 года на польскіх землях.**

**Правільна і патрэбна ў больш як 20 гадоў ад гэтых здарэнняў публікацыі «Былі з намі» — якую прапануем кожнаму — прыпамінае факты і людзей тых дзён.**

---

«Былі з намі» — апрац. Ул. Гура і Ст. Вроньскі. Стар. 524 — МОН 1966.

З ЖЫЦЦЯ БГКТ

## Кампрамітацыя

Змест запрашэння быў наступны. «Праўленне аддзела Беларускага грамадска - культурнага таварыства ў Міхалове запрашае на фестын прысвечаны 1000-гадовым традыцыям дружбы і супрацоўніцтва беларускага і польскага народаў, які адбудзецца ў Рыбаках 21 жніўня 1966 года. Пачатак у 12 гадзін».

З даволі змястоўнага запрашэння выглядала, што гэты фестын, як амаль усе фестыны БГКТ, будзе адначасова прапагандай беларускага слова, песні, музыкі, танца, што выступяць тут мастацкія калектывы, што прыедзе эстрада БГКТ «Лявоніха», што з нагоды такога зместу фестына забяруць голас прадстаўнікі ўлад.

І вось у гэты час, калі пара ўжо пачынаць фестын, пачынаецца бегатня ў пошуках чалавека, які прачытаў бы даклад, які падрыхтаваны быў у ГП. І больш таго, шукаецца мясцовага чалавека, які адкрыў бы так сур'ёзную ўрачыстасць. Людзей такіх не знайшлося. Адкрыў фестын з непадрыхтаванаю прамоваю старшыня аддзела БГКТ у Міхалове Янка Полацкі. Даклад вымушаны быў прачытаць той, хто яго прывёз.

Пасля 20 мінут (столькі працягвалася чытанне даклада) Янка Полацкі сказаў, што фестын ужо закончыўся. Дадаў толькі, што будуць танцы. Людзі доўга не разыходзіліся. Яны памяталі, што ў Рыбаках было некалькі ў гэтым прыгожым месцы фестынаў БГКТ вельмі ўданых, цікавых, арганізаваных з іншымі арганізацыямі. А чаму б і цяпер не арганізаваць яго з маладзёжнымі арганізацыямі і аддзелам культуры павятовай рады нарадовай? Чаму не завезці сюды мастацкіх калектываў? Адным словам абыякава аднесліся да людзей.

**Міхась Сваяк**

## Аб будучыні вёскі

Агульна вядомая гэта праўда, што ў нашай вёсцы застаецца мала моладзі. Вёскі старэюцца. Такая з'ява мае свой нядобры адбітак на развіццi сельскай гаспадаркі, якой патрэбны моцныя маладыя рукі — але не толькі. Справа ў тым, што ў вёсках практычна не існуе добра развітая сетка рамесных паслуг. Беластоцкія ўлады бачаць гэту непацяшальную сітуацыю, таму пастанавілі перш-на-перш сканцэнтравацца на развіцці сеткі рамесных паслуг для патрэб сельскай гаспадаркі і вясковага насельніцтва. Цяпер палітыка будзе такая, каб абсальвенты ўсялякіх прафесіянальных школ маглі знайсці сабе працу, перад усім, у сваёй роднай вёсцы або ў суседняй.

Абсальвенты сельскагаспадарчых школ будуць мець магчымасць працаваць **толькі** па сваёй спецыяльнасці. Нельга прымаць іх на працу ў ніякія «бюра». Выключэнне робіцца для грамадскіх радаў, якія могуць прымаць на працу ў сябе абсальвентаў сельскагаспадарчых школ з увагі на патрэбнасць такіх спецыялістаў у вясковай адміністрацыі. (ся)



## БЕЛАВЕЖА Ў МАСТАЦТВЕ

Ужо другі раз Белавежа, хутчэй Белавежская пушча, сталася цэнтрам вялікага зацікаўлення мастакоў з усяе Польшчы. У прошлым годзе быў у Белавежы І малярскі пленер, цяпер адбываецца ІІ. Мае падвойны характар. пленер разьбы ў дрэве — адбыўся ў жніўні ў Гайнаўцы, а ўвесь верасень занялі мастакі-жывапісцы ў Белавежы. Разьбяроў з'ехалася ў Гайнаўку 35 асоб, дзе з рэдкіх гатункаў дрэў (напр. маганЬ) рабілі яны свае рэзьбы.

Міла запісаўся ў Гайнаўскім пленеры тамтэйшы тартак, які дастаўляў мастакам рэдкае і дарагое дрэва.

На малярскім пленеры таксама 35 мастакоў, у тым 10 з Беластока, знаёмыя і чытачу: **Мікалай Валкавыцкі, Тэрэса Бэйнаровіч** — наш рэдакцыйны графік, **Сцяпан Рыбі, муж і жонка Лабаноўскія** авангардзіст **Ежы Лянгевіч.**

У Белавежу едуць крытыкі і журналісты. Будзе і наш прадстаўнік, які апіша ўсё шырэй.

На здымку: вядомая варшаўская разьбярка **Эвеліна Міхальская** сярод пушчанскіх дрэў. Малаток і долата — прылады яе працы. (вл)




### ЯК ВЫДАЛЯЦЬ ПЛЯМЫ

«Сваю новую белую сукенку запляміла я зелянінаю, калі была над рэчкай. Як і чым мне пазбавіцца гэтых плям?» — піша Марыся К.

Пазбавіцца іх няцяжка. Свежыя травяныя плямы можна выдаліць цёплым мыльным растворам, у які дабаўлена невялікая колькасць нашатырнага спірту. Плямы ж больш застарэлыя выдаляем воцатнай ці шчаўёвай кіслатой. Бяром тампон, змочваем яго ў кіслаце і як бы «ўбіваем» у тканіну. Нельга церці тканіны. Пасля таго добра было б памыць сукенку ў вадзе з дадаткам нашатырнага спірту. Бяром на 1 літр вады 1/2 чайнай лыжкі нашатыру.

Акрамя таго падам некалькі спосабаў чысткі некаторых плям. І так: пляма ад марганцоўкі бясследна знікне, калі запэцканае месца памочым у сыраквашы. Праз тры-чатыры гадзіны рэч трэба памыць звычайным спосабам.

Плямы ад віна і піва з белага баваўнянага абруса выдаляем наступным чынам: націраем гэтыя плямы лімонам, затым пакідаем на некаторы час на сонцы, а пасля палошчам у вадзе. Вінныя плямы на адзенні з баваўнянай тканіны можна выдаліць кіпячым малаком.

Плямы ад ёду можна выдаліць, націраючы іх сырой бульбай.

Плямы ад чарніла са скураных рэчаў і белых тканін можна выдаліць чыстым лімонным сокам.

Плямы плесені з бялізны можна выдаліць сумессю соку лімона і вады. Для гэтага бяром: 1/3 частку соку на 2/3 вады. Плямы змочваем гэтай сумессю. Потым змочанае месца пасыпаем дробнай соллю і даем высахнуць. Пасля гэтага рэч мыць звычайна.

**Аксіння**

## П'юць да ўпаду

Людзі наракаюць, што ў бюрах крынкаўскага надлясніцтва ў Пачапку шырыцца п'янства.

Кажуць:

— Там п'юць да ўпаду нават бабы! Калі начальнік толькі выедзе ў Беласток за справамі, у надлясніцтве зараз стаўляюць на стол чаркі...

Падобныя нараканні мы чулі ўжо не ў адной вёсцы. Сведчыць гэта аб тым, што ў крынкаўскім надлясніцтве не зусім усё ў парадку. Па-другое, кожны павінен ведаць тую старую праўду, што выпіўкі нікога яшчэ не давялі да дабра. Хутчэй, наадварот! (ся)

## НАШЫЯ РАДАСЦІ НАШЫЯ КЛОПАТЫ

(Працяг са стар. 1)

тва, аддзел наш некалькі разоў у год арганізуе танцавальныя вечарыны (Новы год, Кастрычніцкая рэвалюцыя, гадавіна заснавання аддзела і іншыя).

**— Вы сказалі, што не лічыце, каб усё было зроблена дзеля выканання заданняў таварыства. У сувязі з тым, што вы лічыце неабходным зрабіць у другім дзесяцігоддзі? Якія бачыце перспектывы далейшага развіцця Варшаўскага аддзела БГКТ?**

— Лічу перад усім неабходным пашырыць працу з моладдзю, а асабліва са студэнцкай моладдзю. Мы ведаем, што з выпускнікоў аддзялення беларускай філалогіі пры Варшаўскім універсітэце толькі вельмі малая частка вяртаецца на Беласточчыну. Падобная з'ява назіраецца і на іншых факультэтах, не выключаючы факультэтаў тэхнічных. Будзем імкнуцца, каб звязаць гэтую моладзь эмацыянальна з Беласточчынай, каб захацела яна ў будучыні з уласнага пераканання папрацаваць для дабра гэтага раёну, для дабра вёсак, з якіх яна выводзіцца.

Мы б хацелі ў будучыні пашырыць нашу клубную дзейнасць, рэактываваць працу хора, пашырыць лік гутарак і дыскусій у памяшканні аддзела. Усё гэта прыцягнула б да нашай дзейнасці шырэйшы круг варшаўскай інтэлігенцыі, а асабліва моладзі.

Размаўляў
**Ул. Паўлючук**

## Куды дарога?

(Працяг са стар. 1)

чагоддзя), а таксама першага года зрэфармаванай школы. Восьмы клас быў патрэбны, бо з кожным годам растуць веды і навуковыя здабычы. Каб жыць, мы павінны ведаць усё больш, як найбольш, хоць навука не ведае канца. Усім таму жадаем, каб імкнуліся здабыць усё, але ніколі ўсяго не здабылі!

**Вера Леўчук**

# «ЛАГОДНЫ ПРЫВЕТ ЛЮБІЦЬ УВЕСЬ СВЕТ»

**Пры ўсялякіх святочных аказіях любім пагаварыць аб добрым выхаванні таго ці іншага знаёмага, сваяка або суседа. Не забываем прытым даваць адразу прыклады кепска выхаваных знаёмых, сваякоў або суседзяў. Кепска выхаваных аказваецца вельмі многа. У разгары размовы аб добрым выхаванні часта робімся самі нядобра выхаванымі, бо размова пераходзіць у падсмешкі, перакрыўлянне таго, як хто гаворыць, ідзе ці апранаецца. Што найгорш, паказваем усё гэта бы артысты і на вачах уласных дзяцей, якія рагочуць разам з намі — вучацца яны ад нас, дарослых і ўсяведаючых.**

**Забываем аб найважнейшым: яшчэ ніхто нікога добра не выхаваў перакрыўляючы яго або асмяшаючы. Хутчэй наадварот: кожная насмешка родзіць ахвоту супрацьпаставіцца, не паддацца ёй згодна з пагаворкаю — «Не будзь такі разумны!»**

**Колькі ж напісана і сказана аб вялікім значэнні ў жыцці чалавека спакойнага слова і павагі да чалавека, які б ён там не быў. Найбольшую злосць ці нянавісць лагодзіць спакойнае слова. Такое слова, якое не абражае.**

**Не надта вядома, чаму многія дарослыя — асабліва ў вёсках — гавораць паміж сабою так, як бы яны сварыліся. Галасна і крыклiва.**

**— Маці! Свінні хочуць есці!**

**— Бацьку! Ідзі па сена!**

**— Шурка!! Прынясеш ты дроў ці не! (гэтак да сына).**

**І так ад світання да змяркання, пакуль не палягуць спаць, таксама з прыкрыкамі. Цішыня толькі да ранку.**

**Вядомая рэч, што такі спосаб размовы можна тлумачыць цяжкім жыццём вясковага чалавека, які пазбаўлены пастаяннага вольнага часу штодзень. Значыць, можа гаварыць ён толькі цвёрда, бязлітасна, пагрозліва, бо кожная просьба тут абазначае канкрэтную фізічную працу, намаганне. Таму, мабыць, гэта просьба чуецца, як загад. Як канец свету! Аднак жа ёсць многа вясковых хат і панадворкаў, дзе чуеш спакойную, так сказаць, культурную размову, хаця таксама працуюць зусім не менш і зусім не лягчэй, чым, скажам, у суседа. Бацька не выкрыкне «маці!», а маці не выкрыкне «бацьку!», а сыну не пагражаюць «зробіш ты ці не!?» Гавораць па-чалавечы, па-імяні і без капральскіх замашак.**

Ёсць такая беларуская прыказка: «Лагодны прывет любіць увесь свет». Аднаго разу пачуў я на Сакольшчыне і такую прыказку: «Якія бацькі, такія і дзеці». У кожнай пагаворцы ёсць доля праўды, бо не без прычыны родзяцца пагаворкі ў народзе.

**Дзіця пазнае свет ад сваёй роднай хаты. Першым прыкладам усялякіх учынкаў з'яўляецца для дзіцяці яго маці і бацька. Натуральная дзіцяці прывязанасць да бацькоў мае вялікі ўплыў на фармаванне маладога характару. Першыя прыклады адносін да жыцця і людзей даюць яму бацькі. Аб тым, як жывуць і паводзяць сябе ў суседніх хатах, даведваецца яно значна пазней, але найбольшая даверлівасць застаецца да родных бацькоў. Школа часта бяссільная тут у добрым выхаванні дзяцей такіх бацькоў, якія патрапяць абляць настаўніцу за двойкі сына ці дачкі; абляць на вачах усіх, перад усім, дзяцей. Рэшта выхавання канчаецца ў хаце, дзе бацькі цэлы вечар гарланіста тлумачаць адно другому, якія гэта «сякія-такія» настаўнікі. Расказваюць прытым выдуманыя непраўдападобныя гісторыі ці нібы-факты. У крыклівай хаце расце драпежнае дзіця, якое на свой спосаб зразумела, што жыццё пражыць можна толькі крыкам, пагрозамі, хітраваннем. Усюды абман, усюды ворагі, усюды подласць. Дзіця верыць, што ўсё гэта так; што няма людзей зычлівых, ёсць толькі людзі-звяры, здольныя зжэрці адзін другога. Так кажа тата, так цвярдзіць мамка, значыць, праўда.**

**Рэзультат такі, што дарастаючы сын ці дачка ўрэшце перастаюць давяраць і бацькам. Ашукоўваюць іх «на халодны розум», пэўныя свайго ашуканства. Аблічана яно з усёй планавасцю. Няма ўжо мовы аб любві сына да бацькоў: бацькі робяцца патрэбнымі толькі да пары, да часу.**

**Потым маці з бацькам здзіўяцца, што гэта такое сталася з іх дзіцём? Здаецца, дбалі пра яго, як толькі маглі, памагалі яму ўсялякімі спосабамі — менавіта, усялякімі! А вырас дрэнь, вылюдак!**

**Сын жэніцца — і каламыйка пачынаецца нанава.**

**Такія вось думкі і вывады насунуліся мне з нагоды новага школьнага года. Магчыма, што ў многіх тут справах не маю рацыі — і хацелася б дачакацца таго часу, каб такія развaжанні перасталі мець рацыю раз назаўсёды. (СЯ)**

**КАЛІ ЦЁМНАЯ НОЧ...**



то Вялікі тэатр у Варшаве выглядае так.

# ЕЖА З ГАЗУ

Зямны газ — для здароўя атрута, а яго галоўная складовая частка метан — тым больш. І вось англійскія вучоныя з метану выдабылі бялок — жыватворны, найважнейшы ў працэсе ўзросту прадукт. Можна яго есці — самі вучоныя на сабе найперш правялі вопыт. Бялок у метане «выробляе» спецыяльны гатунак бактэрый. Вучоныя кажуць, што з 3 тон метану можна будзе атрымаць 1 тону бялка. Гэта новыя гарызонты для галоднай зямлі.

# Добра ведаць

**...што недахоп бялка ў харчаванні прыводзіць да рэзкага адставання развіцця дзіцяці і значных парушэнняў у здароўі дарослых: падае працаздольнасць, паніжаецца супраціўляльнасць арганізма да прастудных і інфекцыйных захворванняў.**

**... што лішняя вага цела значна скарачае сярэднюю працягласць чалавечага жыцця. Запомніце: сярэдняя працягласць жыцця чалавека, які хварэе на атлусценне, прыкладна на сем гадоў карацейшая, чым чалавека з нармальнай вагой.** (ліў)

### ШЛІФАВАЛЬНЫ СТАНОК З ВІЦЕБСКА

*Станок абазначаецца сімвалам «ЗВ182». Па сваіх канструктарскіх якасцях ён адпавядае лепшым узорам станкоў такога класа ў свеце. Дастаткова сказаць, што дакладнасць апрацоўкі на ім — 0,001 мм (адна тысячная частка міліметра).*

*Такой велічыні голым вокам не згледзіш. Станок мае невялікія габарыты, малую вагу, зручны для работы. Можна на ім шліфаваць любыя металічныя і не металічныя дэталі самых розных формаў. Ён адзначаецца яшчэ цэлым шэрагам другіх чыста тэхнічных якасцей, пералік якіх не вельмі цікавы, бо мала зразумелы для тых, хто не мае дачынення з працэсам шліфавання. Гэты працэс аднак асноўнай важнасці ў метала- і не металаапрацоўчай прамысловасці.* (вр)

*На здымку: шліфавальны станок, які стварылі канструктары завода імя С. М. Кірава ў Віцебску.*



# ПАПЯРОСЫ І РАК

Многія курцы наракаюць, што апошнім часам падаражэлі ў нас папяросы. Найлепш тады або абмежаваць курэнне, або перастаць курыць. Тым больш, што тытунёвы дым з'яўляецца прычынай рака лёгкіх, гэтай страшэннай хваробы, ад якой, пакуль што, няма ніякага ратунку.

Калі не верыце, паслухайце, што кажа знатны спецыяліст у гэтай галіне, старшы навуковы супрацоўнік Маскоўскага анкалагічнага навукова-даследчага інстытута імя Герцэна, кандыдат біялагічных навук Міхаіл Коканаў.

— У нашай лабараторыі было даследвана 40 розных тытунёвых вырабаў. папярос, цыгарэт, айчыннай (значыць савецкай) і замежнай вытворчасці, а таксама 5 гатункаў чыстага тытуню. Аказалася, што 25 працэнт аб'ёму тытунёвага дыму складае этылен. Праводзячы вопыты на пацуках (шчурах) устаноўлена, што гэтае хімічнае рэчыва — этылен — з'яўляецца прычынай узнікнення і хуткага развіцця ракавых опухлей. 50—80 працэнтаў пацукоў, якім уводзілі пад скуру этылен з гідравокісам алюмініюм, праз год—два даставалі рака.

Такім чынам запаленая цыгарэта ў вуснах курыльшчыка — гэта мікразавод па вытворчасці вокісу этылену, які дастаецца ў лёгкія. Як паказала статыстыка, той, хто курыць, можа ў многа разоў хутчэй захварэць на рака лёгкіх, чым той, хто не курыць.

Курэння ніхто нікому не забароніць, але закурваючы папяросу неабходна памятаць, што ад рака няма ратунку. Тады на здароўе... (вр)

# Какосавы транзістар

У лабараторыях адной англійскай фірмы вынайдзена спосаб карыстання транзістаравымі радыёпрыёмнікамі — без батарэй. Аказваецца, такія радыёпрыёмнікі могуць працаваць дзякуючы электрычнай энергіі, якая вытвараецца ў какосавым арэху. Даволі запусціць у какосавае малако пэўную бактэрыю, якая пераўтварае гэтае малако ў кіслату. І менавіта хімічную энергію гэтай кіслаты можна пераўтварыць у электрычную энергію, урухоміць радыёпрыёмнік. І так бактэрыя ёсць лепшай ад батэрыі. Асабліва ў тых краінах Азіі, Афрыкі і Паўднёвай Амерыкі, якія маюць шмат какосавых арэхаў, а мала грошай на закупку заграніцай праўдзівых электрычных батэрый да транзістаравых радыёпрыёмнікаў. (а-ся)

### ПАЦУКІ ПРЫЧЫНАЮ ГОЛАДУ

Розныя ёсць прычыны голаду ў Індыі: суша, разводдзе, стары спосаб гаспадарання, архаічная структура ўласнасці зямлі. Але гэта яшчэ не ўсё. Даследчыкі зварочваюць увагу на... пацукоў, як істотную прычыну голаду ў Індыі. Аблічана, што шэсць пацукоў з'есць столькі, колькі адзін чалавек. А ў Індыі пацукоў цэлыя хмары, мільярды іх. Штогод знішчаюць яны найменш чацвёртую частку ўраджаю. (а-ся)

### СУПРАЦЬ СВІНКІ

Свінкай называем хваробу, якая часта з'яўляецца ў дзяцей. Дагэтуль лічым, што яна лёгкая. У дарослых, калі паяўляецца, бывае аднак прычынай іншых больш сур'ёзных хвароб. Супраць свінкі не было ў асноўным прышчэпкі (шчэпёнкі). Але ў апошні час такую прышчэпку вынайшлі амерыканскія вучоныя. Шырока яшчэ не прымяняецца.

### АДПАЧЫНАК У ХАЦЕ

Урад паўднёваамерыканскай рэспублікі Чылі ўвёў новыя гадзіны працы. Да гэтага часу праца адміністрацыі пачыналася ў 9,30 гадз. і канчалася а палова восьмай увечары. Цяпер пачатак працы вызначаны на 7,30 і яе канец на 17 гадзіну — з перапынкам на абед. Чылійцы не вельмі прызвычаены да хатняга адпачынку, бо раней былі доўгія двухгадзінавыя перапынкі працы ўдзень.

Каб пастанова чылійскага ўрада добра была рэалізавана, абвешчана дадатковае распараджэнне, што ўсе бары і рэстараны могуць быць адкрытымі найпазней да сёмай гадзіны вечара. Чылійцы памалу прызвычайваюцца ладзіць свой адпачынак у кватэры, а не па розных кафейках ды рэстаранах горада. (а-ся)

**Мала, але цікава**

### МОРА ЗЯМЛІ

Салёныя воды займаюць 70,9% плошчы зямнога шара. Трымаюць у сабе нявіданныя багацці.

### БУДЫЗМ

«Жыццё — гэта пастаяннае цярпенне» — кажа філасофія будызму — рэлігіі, якая гуртуе 300 мільёнаў верных і мае 2500 год. Асновай будызму з'яўляецца «Чатыры праўды»:

1) свет і жыццё чалавека поўныя цярпенняў,
2) прычынай такога парадку — прагнасць і захланнасць. З іх выходзіць старасць і смерць.
3) паказвае дарогу вызвалення: трэба адступіць ад усялякіх жаданняў.
4) падае спосабы вызвалення.

Апошняй мэтай, да якой павінна ісці кожная істота, не з'яўляецца райскі сад шчасця (бо надзея на пасмертную ўзнагароду гэта ж таксама згубная прага), але нірвана, загубленасць у абсалютным нічым. (вл)

# ТАЯМНІЦЫ СТАНЦЫІ „П-Т-ІКС"

Й ГОРНУНГ

**Позднім вечарам 30 ліпеня 1941 года Дзюпон выйшаў з вагона скорага поезда на аўгсбургскім вакзале. Праз дзверы вакзала цёк няспынны паток людзей. Пад сценамі, сярод рукзакоў і рознай амуніцыі спалі салдаты. «Pst! Feind hört mit»1) — перасцерагалі велізарныя плакаты, з якіх моўчкі ўзіраліся ў рухлівы натоўп панурыя чорныя фігуры. (**

**З цяжкасцю прабраўшыся праз вакзальнае памяшканне Дзюпон увайшоў у рэстаран. Яшчэ з парога ён заўважыў «Зауэра», які ў мундзіры палкоўніка Люфтвафе сядзеў на малым, укрытым у нішы столікам.**

### КАШТОЎНЫЯ ЗВЕСТКІ

**— Я ўжо думаў, што вы сёння не прыедзеце, Herr Кент, — сказаў, вітаючыся, «Зауэр». — Усё больш цяжка падарожнічаць. Паязды ходзяць вельмі нерэгулярна, а гестапа і СД проста пачынаюць шалець.**

**Пасля гэтых уводзін «Зауэр» паведаміў Дзюпону, што яго добры знаёмы, інжынер Хегельбах, які працуе на заводзе «Вольф-Радыё», заявіў, што фірма «Трансмарэ», за спіной якой стаяў абвер, заказала ганіёметры зусім новага тыпу. Па словах Хегельбаха, гэтыя апараты дазвалялі беспамылкова лакалізаваць любы перадатчык у радыусе звыш дзесяці кіламетраў.**

**Дзюпон адразу ж ацаніў, якое значэнне для ўсіх разведвальных груп мела гэтая інфармацыя. Не было сумнення, што калі абвер заказвае такую апаратуру, то значыць, мае намер прыступіць да шырокай акцыі супраць перадатчыкаў замежных разведак. Аднак можна было б перашкодзіць абверу ў рэалізацыі гэтых планаў шляхам сабатажу на прадпрыемстве «Вольф-Радыё». Дзюпон звярнуўся да «Зауэра»:**

**— Хегельбах вам добра знаёмы?**

**— Я ведаю яго даўно, але зараз не падтрымліваю з ім асабліва блізкіх адносін, — высветліў «Зауэр».**

**— Гэта не пашкодзіла б, — сказаў Дзюпон. — Падумайце, якім чынам, не ўзбуджаючы падазрэнняў, можна было б завязаць з ім блізкі кантакт. Вядома, гэта ўжо будзе не вашай задачай. Прымаючы пад увагу вашу бяспеку, мы ўскладзём гэтую місію на каго-небудзь іншага. Аднак, калі спробы завербаваць Хегельбаха не ўвянчаюцца поспехам, мы вымушаны будзем накіраваць на гэты завод свайго чалавека. Новыя ганіёметры павінны мець якую-небудзь канструкцыйную памылку і даваць няправільныя паказанні. Што ў вас яшчэ цікавага?**

### ТАЯМНІЧАЯ БУТЭЛЕЧКА

**«Зауэр» сунуў руку ў кішэню мундзіра і выняў адтуль плоскі пакуначак, у якім знаходзілася невялічкая бутэлечка з чорнага шкла. Як сведчыла налепленая на ёй залатая этыкетка, у бутэлечцы былі духі. Схаваўшы пакуначак, Дзюпон спытаў:**

**— Што ў ім?**

**— Даныя пра дзённы выпуск самалётаў «Месершміт» — «Ме—110» і інфармацыя аб колькасным стане Люфтвафе. Там таксама ёсць копія плану выкарыстання авіяцыі для падтрымкі наступлення групы армій «Цэнтр» на Маскву.**

**— Цудоўна. Калі ў бліжэйшы час у вас будуць якія-небудзь важныя звесткі, прашу паведаміць мне шыфравальным лістом на кантактную скрынку №3 у квартале Ведзінг. Рацыяй карыстацца толькі ў выключных выпадках. З гэтага часу па ўсіх справах мы будзем звязвацца асабіста або праз вядомую вам кантактную скрынку. Але на ўсякі выпадак штодзённа з 22 гадзін я буду дзесяць мінут на прыёме — на запасной хвалі 9,75 метра. Шыфр застаецца без змен.**

**«Зауэр» развітаўся і выйшаў. Дзюпон, перачакаўшы да раніцы ў невялікай прывакзальнай гасцініцы, выехаў у Брусель, дзе яго чакала апрацоўка матэрыялаў, атрыманых ад «Зауэра».**

**Цяпер яны знаходзіліся ў яго кішэні, схаваныя ў маленькай бутэлечцы са спецыяльнай вадкасцю. Перад тым, як дастаць матэрыялы, трэба было гэтую вадкасць выбраць з дапамогай медыцынскага шпрыца, пільна сочачы за тым, каб у бутэльку не прасачылася паветра. Затым неабходна было ўвесці ў флакон тым жа шпрыцам невялікую колькасць адпаведнага рэактыва — і толькі тады можна было абсалютна спакойна зняць гумавы корак. Інакш у адкрытую бутэльку ўвайшло б паветра і, злучыўшыся з вадкасцю, выклікала б гвалтоўную тэрмічную рэакцыю, у часе якой усё, што знаходзілася ў бутэльцы, згарэла б.**

### СПАТКАННЕ Ў ПАРЫЖЫ

**18 верасня 1941 года дырэктар Дзюпон прыбыў, нарэшце, у Парыж і, карыстаючыся сваімі правамі і становішчам, спыніўся ў атэлі «Еўропа», зарэзерваваным выключна для патрэб вермахта і нямецкіх устаноў.**

**Выгляд горада, які нічым не нагадваў даўняга вясёлага і бесклапотнага Парыжа, засмуціў Дзюпона. Таму ў панурым настроі ішоў ён вечарам таго ж дня ў квартал Пасі, на месца, вызначанае для спаткання з «Жыльберам».**

**Упершыню Дзюпон сустрэўся з «Жыльберам» па ўказанню Цэнтра ў маі 1941 года — за месяц да нападу гітлераўцаў на Савецкі Саюз. Тэмай размовы былі тады задачы разведвальных груп, падначаленых Дзюпону, на выпадак вайны з Германіяй. Дзюпон не ведаў «Жыльбера», хоць часам не мог адагнаць уражання, што некалі яны сустракаліся там, на «Вялікай Зямлі». Але гэтае ўражанне было неканкрэтным. Зрэшты, даволі часта сустракаеш людзей, вель-**

# ТРЫБУНА чытачоў

## ◆ ПРА БЕЛАРУСКУЮ МОВУ ◆

У новым навучальным 1966/67 годзе пачатковыя школы павялічацца на адзін клас — VIII клас. Новая праграма і новыя падручнікі будуць навасцю ў працы настаўнікаў гэтых школ. З гэтым жа самым сустрэнуцца настаўнікі і беларускай мовы. У месяцах чэрвені і ліпені «Ніва» папярэдзіла настаўнікаў аб сваёй дапамозе, што будзе друкаваць чытанкі класаў V і VIII на старонках «Зоркі» і «Нівы». У час канікул настаўнікі больш накіравалі сваю ўвагу на праграму і старанна, думаецца, сочаць і збіраюць патрэбнае. Аднак гэта яшчэ ўсяго не задавальняе. Астаецца невядомым, у якім парадку будуць друкавацца прадбачаныя апавяданні. Вядома, што некаторыя класы да пачатку навучальнага года не атрымаюць новых падручнікаў, а настаўнік хаця на «два дні» раней павінен ведаць ад вучня чаго вучыць мае, і трэба друкаваць план хаця б на першы квартал. Не павінна адбыцца без дакладнага паінфармавання аб гэтым працаўнікамі школьных устаноў. Метадычныя інструктары да беларускай мовы павінны выясніць настаўнікам, як кіравацца ў працы часова без новых падручнікаў. Даспелі жаданні настаўнікаў беларускай мовы, каб прасіць дапамогі ў Галоўнага праўлення БГКТ, рэдакцыю «Нівы» і «Зоркі», а разам і Беластоцкае радыё, каб дапамагалі настаўнікам рэалізаваць лозунг праграмы — вывучэнне беларускіх дзіцячых і вакальных песень. Настаўнікі, а тым больш дзеці, любяць спяваць, але не кожны з настаўнікаў музыкальны. Беларускія песні гучаць меладычна, нясуць у словах любоў і дружбу, вучаць кахаць свой народ і краіну. Можна і варта распрацаваць адпаведна і падаць, як праграмна ідзе распрацоўка па радыё польскіх песень. Гэтага патрабуе шырокая рэформа пачатковых школ.

Бельскі павет
**Сцяпан Жужаль**
Кіраўнік школы ў Катлах.

## СВАІМІ ВАЧАМІ

Калі чалавек з'яўляецца сведкам таго, што кругом яго робіцца, ён тады не заўважае перамен.

Мне нядаўна давялося пабываць на сваёй радзіме пасля 20 год. Я маю на думцы мястэчка Гарадок у Беластоцкім павеце. Гэты невялікі населены пункт вельмі змяніўся.

Па баках прыгожых маставых вуліц Беластоцкай, Міхалоўскай і Фабрычнай пралягаюць роўнымі квадратамі ходнікі. Паявілася многа зелені. У цэнтры мястэчка раскінуўся малады парк. Пабудавана новую школу, выраслі корпусы трыкатажнай фабрыкі. Пабудаваны новы дом культуры. Для моладзі ёсць дзе правесці культурна вольны час ад працы. Усё гэта ўпрыгожыла мястэчка Гарадок. Замест дзікіх лугоў, па якіх працякала рэчка Супрасль, раскінуліся тысячы гектараў ураджайных сенажацяў і паш. Тут уложана доля працы маіх землякоў, інжынераў-меліяратараў Івана Дудзіка, Усевалада Кандрусіка і іншых.

Мая пабыўка супала з нацыянальным святам ПНР, гадавінай адраджэння Польшчы. І дзякуючы гэтаму сацыялістычнаму адраджэнню так карысна перамянілася мая радзіма.

**В. Н. Мялешка**
з Гродна, былы жыхар Гарадка

## ЗАБАБОНЫ

Ёсць шмат людзей на Сакольшчыне, якія вераць у забабоны. У час жніва прывёз Міхась касярку касіць жыта, а тут як на грэх, коні не хочуць цягнуць. Не ідуць і ўсё. Як ён іх не паганяў, а яны па-свойму падскакваюць. Бачачы гэту «майсу», Васіль падыходзіць да Міхася і кажа, — пастой, нічога з гэтага не будзе, хтосьці глянуў на коні кепскім вокам. Зняў ён нагавіцы і стаў выціраць коням вочы і храпы. У тым часе падыйшлі іншыя аднавяскоўцы. Выцершы нагавіцамі коням вочы і храпы Васіль кажа:

— А цяпер, хлопцы, кропце пугамі пад трыбух. Хлопцы «жарнулі» па конях хто чым меў, так аж лёскат пайшоў, і коні рванулі і пацягнулі касярку. І так памаглі нагавіцы.

**А.С.**
Сакольшчына

## Праца ў лесе

Многа людзей з Масева І II-га працуе сталымі працаўнікамі ў Белавежскай пушчы. У гэтым раёне пры вырубцы лесу працуе пяць механічных піл. Сезонныя рабочыя пераважна працуюць ручнымі піламі. У пушчы нямала працуе таксама жанчын. Найбольш пры залясенні. Летам яны збіраюць ягады, маліны, а восенню — грыбы.

**Янка Леўша**

**мі цадобных адзін да аднаго. Звесткі пра «Жыльбера», якія былі ў Дзюпона, абмяжоўваліся толькі фактам, што ён быў кіраўніком разведвальнай арганізацыі, якоя дзейнічала супраць трэцяга рэйха на тэрыторыі ўласна Германіі і акупіраваных краін Захаду.**

**Прымаючы пад увагу небяспеку, якая пагражала разведвальным групам з боку абвера, СД і гестапа, кіраўніцтва савецкай разведкі пастанавіла захоўваць найглыбейшую канспірацыю. Выпрацоўка і ажыццяўленне адпаведных форм дзеяння сустракала аднак у першы перыяд вайны сур'ёзныя цяжкасці. «Жыльбер», акліматызаваўшыся ў Парыжы, пачаў арганізаваць сваю разведвальную сетку такім чынам, што асобныя людзі зусім не ведалі адзін аднаго, падтрымліваючы сувязь паміж сабой толькі ў выключных выпадках — пасля ўзнання па радыё ад «Жыльбера» ці з самога Цэнтра. Асобныя разведвальныя групы былі створаны прадстаўнікамі «Жыльбера», якія выканаўшы сваё заданне і забяспечыўшы людзей радыёапаратурай знікалі, каб больш ужо не з'яўляцца на гэтай тэрыторыі. Кантакт з «Жыльберам» і Цэнтрам групы падтрымлівалі толькі з дапамогай радыё і ўмоўленых «паштовых скрынак». У тых жа выпадках, якія вымагалі асабістага кантакту, сувязь з кіраўнікамі асобных груп і агентамі падтрымліваў Дзюпон, захоўваючы належныя сродкі асцярожнасці.**

**(Працяг будзе)**




Дарагое **Сэрцайка!**

У гэтым годзе я буду ўжо вучыцца ў сёмым класе. Маю добрую сяброўку, і мы з ёю часта ходзім на фільмы, а нават на забавы, толькі каб настаўнік нас не бачыў. Апошнюю нядзелю мы з сяброўкай доўга сядзелі на лавачцы. Да нас прыйшлі нашыя сябры. Ніколі не падумала, што Коля (адзін з іх) такі прыгожы хлапец. Я яго адразу пакахала. Цяпер не ведаю, што мне рабіць. Не сплю цэлымі начамі, усё аб ім думаю. Мо сказаць яму аб гэтым, бо ён то мне нічога такога не гаварыў, проста гаварылі цэлы вечар аб школьных справах, аб цікавых кніжках. Я штопраўда не прымала ўдзелу, бо не ведаю добрай кніжкі. Напішы мне, Сэрцайка, ці сказаць яму аб гэтым, ці не?

**Ірка**
з мястэчка Г.

Ірэнка! Пішаш, што не знаеш добрай кніжкі, а так многа ёсць гэтых добрых, цікавых кніжак. Як табе не сорам, усе твае сябры многа чытаюць у час канікул, а ты нічога, і таму вымушана была маўчаць. А ведай, Ірка, што калі хочаш падабацца Колі, дык вазьміся за кніжкі. А пры другой сустрэчы з сябрамі ты будзеш расказваць аб цікавых здарэннях, прыгодах і аб усім цікавым, што прачытала ў кніжках. Тады і Коля напэўна зверне ўвагу на цябе. Так што як найхутчэй Ірэнка бяжы ў бібліятэку.

**Сэрцайка**



**Рванне ільну на палетку Сцяпана Петручука.**

## ЛЁН

Кантрактацыя ільну дае вялікія даходы сялянам. Сцяпан Петручук з Крывой (Бельскі павет) кожны год кантрактуе па некалькі гектараў ільну. З даходаў з ільну пабудаваў ён прыгожы цагляны дом.

П. З. Бельскі павет

## Падарак школьнікам

У Нурцы пад Боцькамі, на Бельшчыне, памяшканнем для школы былі чатыры цесныя прыватныя сялянскія хаты. Гэты новы навучальны год пачнецца ў новым прыгожым будынку. 166 дзяцей будзе мець добрыя ўмовы да навукі. Тут будуць вучыцца дзеці з Нурца, Дубна і Шашыл. Будова школы разам з усім абсталяваннем каштавала 3 мільёны зл. Пры школе пабудаваны таксама жылы дом для настаўнікаў.

**Павал Зінкевіч**
Бельск



**Пабудаваная школа.**

## У час канікул

Памяшканне школы ў Луцэ на Гайнаўшчыне і ў час канікул было напоўнена дзіцячым гоманам. Кожны дзень ад 8 гадзіны да 16 дзеці знаходзіліся пад наглядам выхавацеляў, а бацькі маглі спакойна працаваць на палях і сенажацях. Умовы для адпачынку дзяцей тут дасканалыя. Коштам 10 тысяч злотых, прызнаных Ваяводскім праўленнем сельскагаспадарчых гурткоў, абсталяваны пляц іграў і забаваў. Ён таксама прыгожа абгароджаны і абсаджаны таполямі.

**Віктар Бура**
Гайнаўка



**Дзеці пасля купання ў Нарве.**

## ЦЭНЫ

Ваяводская камісія цэн пастаянна сочыць за цэнамі на кірмашах, дзе не абавязваюць дзяржаўныя цэннікі. Яе працаўнікі ў мінулым тыдні (у чацвер у Беластоку і Бельску, а ў сераду ў Гайнаўцы) аднатавалі наступныя цэны ў злотых:

| прадукт | мера | Беласток | Бельск | Гайнаўка |
|---|---|---|---|---|
| **жыта** | **мера** | **—** | **300** | **300** |
| **пшаніца** | **цэнт.** | **480** | **450** | **360** |
| **яйкі** | **шт.** | **1,65** | **1,50** | **1,50** |
| **масла** | **кг** | **60** | **55** | **50** |
| **ялавічына** | **кг** | **36** | **—** | **36** |
| **свініна** | **кг** | **38** | **37** | **—** |
| **сала** | **кг** | **33** | **35** | **33** |
| **бульба** | **кг** | **1,30** | **0,90** | **1,00** |
| **цыбуля** | **кг** | **4** | **5** | **3** |
| **капуста** | **кг** | **1** | **1,50** | **—** |
| **морква** | **кг** | **2** | **5** | **2** |
| **буракі** | **кг** | **2** | **6** | **2** |
| **сена** | **цэнт.** | **—** | **—** | **150** |

# КІНО

**Праграма**
на 6. IX. — 11. IX. 1966 г.

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Белавежа**
„Niewysłany list" (radz.), 6—7. „Ucieczka z Paryża" (franc.), 8—9. „Nieznany" (polski), 10—11.

**Кляшчэлі**
„Zdarzyło się w Rzymie" (włoski), 6—7. „Mam 20 lat" (radz.), 8—9. „Żona dla Asuralijczyka" (polski), 10—11.

**Дубіны**
„Olbrzym" (USA), „Kosmos wzywa" (radz.), 10—11.

**Нарва**
„Ojciec żołnierza" (radz.), „Kalosze szczęścia" (polski) 7—11.

**Нараўка**
„Olbrzym" (USA), „Kosmos wzywa" (radz.), 7—11.

**Чыжы**
„Małpia kuracja" (USA), „Skrawek ziemi ojczystej" (radziecki), 7—11.

**Дубічы Царкоўныя**
„Ameryka, Ameryka" (USA), „Ewa A-5116" (węgierski), 7—11.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**
„Był sobie dziad i baba" (radziecki), „Czarne skrzydła" (polski), 7—11.

**Райск**
„Umrzeć w Madrycie" (franc.), „Kuba w ogniu" (kubański), 7—11.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**
„Dotknięcie nocy" (polski), 6—7. „Dzwonić Northside 777" (USA) 8—9.

**Міхалова**
„Oddajcie mi dziecko" (NRD), 6—7. „Pojedynek" (radz.), 8—9. „Dziewczyna kłamie" (jugosł.), 10—11.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Нурэц**
„Pierwszy dzień mego syna" (czeski), 6—7. „Miłość jednej nocy" (rumuński), 8—9. „Najdroższa" (radz.), 10—11.

**Мілейчыцы**
„Dziewięć dni jednego roku" (radz.), 6—7. „Normandia — Niemen" (radz.), 8—9. „Trzy kroki po ziemi" (polski), 10—11.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**
„Alba Regia" (węgierski), 6—7. „Bandyci z Orgosolo" (włoski), 8—9. „Zabawy w muzeum" (węgierski), 10—11.

**Шудзялава**
„Człowiek z przeszłością" (radziecki), „Niewidomy muzyk" (radz.), 7—11.

**Сідра**
„Pięć łusek" (NRD), 6—7. „Szkarłatne godło odwagi" (USA), 8—9. „Miłość blondynki" (czeski), 10—11.

**Сухаволя**
„Giuseppe w Warszawie" (polski), „Tajemnica szyfru" (rumuński), 10—11.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Новы Двор**
„Człowiek, który zabił Liberty Valancea" (USA), 10—11.

**Ліпск**
„Salto" (polski), „Nowy Gilgamesz" (węgierski), 10—11.


# НІВА

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł. kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok 1 Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przepłata na konto NBP Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie. 5 $ — w USA.

Nakład 5458. Błtk D-3




ЕЖЫ АФЕРСКІ

# ЯНУК РАСКОЛВАЕ АТАМ

Яшчэ і сонейка добра не зайшло, а я ўжо карову падаіла. Падаіла ды думаю: схаджу да Тэклі, памянчу языком трохі. Бо як не выкажу ўсё, што накіпела за дзень, дык да раніцы і на волас не засну. І толькі гэта паспелі мы з Тэкляй перамыць косткі адной суседцы, як зрываюцца з завесаў дзверы і ў хату ўлятае Прузына Паскакуха. Вочы — па яблыку!

— Ратуйцеся, людцы добрыя! — верашчыць. — Янук Цыбаты атам будзе расколваць! Усе ў попел ператворымся!

І ходу на вуліцу. Мы— за ёю. Па дарозе пеўня падбілі, сабаку на хвост наступілі, такі тарарам падняўся! А Прузына скокнула да рэйкі, што на явары вісела, і давай бомкаць.

— Пажар!!! — крычыць, а людзі за ёю ў крык: — Гарым!!! — Атамная трывога! — крычу і я. — Хапайце, людзі, багры, лапаты! Сякеры рыхтуйце!

Назбягалася народу пад Янукову хату — процьма! І праўда: на плоце плакат вісіць, а на плакаце — чэрап і косці, страшней, чым на электрычным слупе. І напісана знізу: «Навукова-даследчы цэнтр. Пабочным уваход забаронены!»

Жанчыны паднялі лямант, дзеці плачуць. Пажарная каманда прымчала, пачала свае кішкі размотваць. Прузына паглядзела, што ў пажарнікаў каскі і раз — вядро сабе на галаву надзела.

І вось з хаты Янук Цыбаты выходзіць — строгі такі, у белым халаце, а вочы, як у вар'ята блішчаць.

— Ты што ж гэта, трасца тваёй галаве, надумаў? — грукаю палкаю яму па варотах. Атам расколваеш? Ды ведаеш ты, што табе за гэта будзе?

— А можа я ў вучоныя падаўся, у хіміі... Важны навуковы дослед раблю... — спакойна гаворыць Янук.

Мяне так і ўзарвала:

— Ды хто ж гэта, каб цябе сляпога вадзілі, пад мухай доследы з атамнай бомбай робіць! Націснеш не туды — і паляцім!

— Па-першае, я не пад мухай, а, па-другое, я лепей ведаю, што і калі ціснуць, — сячэ мне Янук. — А па-трэцяе, калі будзеце перашкаджаць, то спушчу Барбоса з ланцуга... І наогул я тут з вамі траля-ля разводжу, а там можа выбух здарыцца! — і бягом у хату.

Ну, а мы ад страху ў другі канец вуліцы сыпнулі. Аддыхаліся і раімся ўсёй грамадой, што рабіць з гэтым доследам, дзе дапамогу шукаць. І тут зноў прылятае Прузына Паскакуха:

— Ратуйце! Янук атрымаў смяротэльную дозу радыяцыі!

Забылі мы пра небяспеку, назад бяжым. Бачым, Янук блытаецца на нагах не стаіць, пасінеў увесь. Глядзім здалёк, падысці баімся — радыяцыя ж!

— Ат, ці паў, ці прапаў! — Ігнат Дробыш рукою махнуў. — Прашчайце, таварышы! Буду ратаваць Янука, ён у мяне пяцьсот злотых пазычыў!

Падхапіў заражанага пад рукі, пацяг у дом.

Прайшло трыццаць мінут, прайшла гадзіна — няма Ігната. Нарэшце выходзіць... Матачка мая родненькая — заразіўся і ён! Ногі выкрутасы выводзяць, язык не варочаецца. Паплёўся да бацькі старога...

— Ратуй, татачка... — жаласліва гэтак просіць.

Стары Дробыш кулаком слязу змахнуў, жанчыны пачалі ўсхліпваць.

— Як жа цябе ратаваць, сынок?

— Д-д-дозу, вялікую прынялі... Расол капусны нясі, закуску давай! — і назад у хату.

Падхапіўся стары, як падмецены — і дадому, узяў, што трэба, з сям'ёй развітаўся і таксама туды, — у «навукова даследчы цэнтр». Не ведаю, колькі яшчэ так мы пастаялі, ажно бачым — коціць на веласіпедзе ўчастковы міліцыянер. Мы да яго.

— Чуеце пах? Уран выпараваюць... Панюхаў участковы паветра і кажа:

— Эге! Ды тут такія ж атамнікі, як і ў суседнім сяле! — і ў хату шыбуе.

Яшчэ мо і дзверы не зачыніў за сабою, як пачуліся выбухі адзін, другі, трэці...

— Лажысь!!! — закрычала я.

Усе ў пясок пападалі і на чацвярэньках — хто куды!

Выходзіць міліцыянер, у адной руцэ бутэлька гарэлкі літраў на дзесяць, а ў другой трубкі пагнутыя.

І тады я падумала: ну і таленты ў нашым сяле! Нават з атама самагонку ўхітраюцца гнаць...

Пераклад з польскай мовы Паўла Місько



— Ты што, забыў яму прабачыць, калі мы ад'язджалі?





«Раней я так далёка ніколі не скакала», — падумала блыха, кусаючы кенгуру.




Без слоў.

СМЕЛЫ ЧАЛАВЕК

— Хто з вас бачыў смелага чалавека? — пытаецца настаўнік.

— Мой бацька самы смелы.

— Адкуль ты ведаеш, што ён самы смелы?

— Ён нават маме сказаў, што яе ні кропелькі не баіцца.




**Помні: не ўсё малое можа вырасці, усё роўна як, і не ўсё вялікае заўсёды было і будзе вялікім.**

**КОЛЬКІ ШУМУ**

Аднойчы ў пост бабулі захацелася каўбасы.

«З'ем крыху, каб ніхто не ведаў», думае сабе. І пачынае есці. Свежая каўбаса так смакуе, што бабуля аж пальцы аблізвае. Раптам надыйшла бура, пачало бліскаць і грымець. Бабуля адлажыла каўбасу і кажа:

— Ой, Божа, за такі маленькі кавалачак каўбаскі толькі шуму.

**ЗРАЗУМЕЎ**

Было гэта ў час вайны. Вёску занялі немцы. Прыбягае адзін нямецкі афіцэр да гаспадыні і крычыць.

— Матка, давай млеко, яйко.

— Колькі вам! — незадаволена сказала яна.

А немец як закрычыць:

— Колькі ест, толькі і давай!

**НЕ НАВУЧЫЛІ**

— Мама, ты не ведаеш, у якой настаўніцы вучылася цёця Валя?

— А што такое? — пытаецца маці.

— Дык яна ж арыфметыкі не ведае. Замест пяці злотых рэшты дае толькі тры...

**БОРШЧЫК**

Маці варыла самагонку, а малога хлопчыка паслала на панадворак.

— Гуляй, сынку, каля варот, а як хто спытае, што мама робіць, скажаш: «Мама варыць боршчык».

Ідзе дарогаю солтыс і пытае:

— Што, хлопчыку, твая маці робіць, што не выйшла на грамадскі чын?

— Мама боршчык варыць.

— А хутка яна ўправіцца?

— Э не! Яшчэ доўга. Боршчык толькі што пачаў капаць.

СІЛА ЗВЫЧКІ

*Перастрахоўшчык неяк трапіў*
*У пекла, да чарцей у лапы.*
*А тыя доўга не марудзяць,*
*І вось ён — у смале па грудзі*
*І ўжо адтуль ім задае пытанне:*
*— Ці ўзгоднена дзе гэта купанне?*

*Ул. Правасуд*




Вясёлы чалавек не наракае на нервы.

✲

Грошы ўцякаюць з рук, як вада.

✲

Сонца радасці рассвятляе найчарнейшыя думкі.

✲

Бывае, што найгоршае выходзіць на найлепшае, але бывае і наадварот.

✲

Часам на хвалі, якая бяжыць, чалавек бачыць уцякаючыя думкі.

Кур'ёзы

**Толькі двое**

**Расіні вельмі любіў добра паесці. Аднойчы, будучы ў цудоўным настроі, ён сустрэў свайго прыяцеля.**

**— Адкуль ты такі задаволены? — спытаў той кампазітара.**

**— З-за стала.**

**— Што еў добрага?**

**— Індычку.**

**— Многа вас там было?**

**— Толькі двое.**

**— А хто яшчэ?**

**— Я і індычка.**



Без слоў.